14 ЛІПЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№78 (609) КОШТ СВАБОДНЫ




# Хто каго?

## Апазіцыя рыхтуецца святкаваць праводзіны Аляксандра Лукашэнкі, а прэзідэнт думае, як «праводзіць» сваіх праціўнікаў за краты

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**21 ліпеня, калі заканчваюцца легітымныя прэзідэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі, Вярхоўны Савет, у адпаведнасці з Канстытуцыяй, збіраецца пераняць уладу ад Лукашэнкі, а апазіцыйныя сілы рыхтуюць у Мінску акцыю пад назваю «Развітанне з першым прэзідэнтам». Улады таксама не пакідаюць без увагі гэтыя прыгатаванні апазіцыі і рыхтуюць адпаведныя контрмеры.**

З крыніцы, блізкай да прэзідэнцкай адміністрацыі, нам стала вядома, што Савет бяспекі і іншыя спецслужбы рыхтуюць цэлы комплекс прэвентыўных мераў па нейтралізацыі асабліва небяспечных апазіцыянераў. Згодна з інфармацыяй гэтай крыніцы, створаныя адпаведныя спецгрупы па сачэнні за Сямёнам Шарэцкім і іншымі лідэрамі дэмакратаў. Крыніца таксама сцвярджае, што супраць апазіцыянераў будуць выкарыстаныя правакацыі, кшталту падкідвання ім зброі, наркотыкаў і г.д. Іншая крыніца з міністэрства ўнутраных справаў паведаміла, што ўнутраныя войскі, спецназ і бронетэхніка прыведзеныя ў стан баявой гатоўнасці.

Такі варыянт цалкам верагодны. Варта нагадаць, што падобны сцэнар улады рыхтавалі і восенню 1996 года напярэдадні т.зв. «рэферэндуму». Тады ў Мінск, для «падаўлення беспарадкаў» былі нават запрошаныя расійскія спецназ, снайперы і іншыя паліцэйскія часткі. Мы вырашылі пацікавіцца, што ведаюць аб гэтым патэнцыйныя «ахвяры» з апазіцыі. ■

**Сямён ШАРЭЦКІ, старшыня ВС:**



— Нічога незаконнага мы рабіць не збіраемся. А калі ўлады будуць хапаць і біць за тое, што чалавек выконвае патрабаванні Канстытуцыі, ну дык што ж? Тым не менш, я нічога не баюся, бо жыву ў сваёй краіне, і няхай баіцца той, хто парушае нашыя законы. А Лукашэнка ўжо відавочна баіцца, бо ведае, што прыйдзецца адказваць за свае ўчынкі, за шматлікія парушэнні Канстытуцыі. Мы ж, у адпаведнасці з законам, будзем праводзіць сесію Вярхоўнага Савета і далей дзейнічаць так, як таго патрабуе Канстытуцыя нашай краіны.

**Сяргей АНТОНЧЫК, старшыня аргкамітэта Нацыянальнага з'езда рабочых:**



— Працэс ідзе такім чынам, што арышт любога з лідэраў апазіцыі нічога не зменіць. Прэзідэнт баіцца страціць сваю легітымнасць і таму вельмі спадзяецца на сілавы варыянт. Калі мядзведзь становіцца ў стойку, ён вельмі гучна раве. Але гэта сведчыць не аб тым, што ён смелы, а аб тым, што баіцца. Так і з Лукашэнкам.

**Сямён ДОМАШ, член прэзідыума ВС 13-га склікання:**

— Лукашэнка рыхтуецца да незаконнага ўтрымання ўлады, і нічога дзіўнага ў яго паводзінах няма. Улады баяцца нават таго, што апазіцыя проста нагадвае людзям аб заканчэнні прэзідэнцкага тэрміну Лукашэнкі, таму і збіраюцца прымяняць такія бязглуздыя прэвентыўныя меры і правакацыі. Апазіцыянерам жа ў сваю чаргу трэба цяпер быць больш асцярожнымі.



**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, старшыня АГП, дэпутат ВС:**



— Палітык, які дзейнічае ва ўмовах таталітарнага рэжыму, павінен быць гатовы да любога развіцця падзеяў, у тым ліку і да такога. А для Лукашэнкі такія паводзіны абсалютна ўласцівыя. Прэзідэнт цяпер баіцца ўсяго і паводзіць сябе вельмі нервова. Прэзідэнт баіцца свайго атачэння, бо думае, што тыя здзейсняць палацавы пераварот. Таму ён і палохае апазіцыю. Мяне ўжо не раз папярэджвалі, што маё прозвішча ў спісах на арышт стаіць адным з першых, але я не баюся. Ні ў якую эміграцыю я не паеду і застануся да канца са сваім народам.

**Вячаслаў СІЎЧЫК, сакратар управы БНФ:**

— Такія паводзіны прэзідэнта абсалютна чаканыя. Больш таго, у мяне таксама сёння ноччу з'явілася на гэты конт інфармацыя са сваіх крыніц. Лідэраў апазіцыі збіраюцца захапіць напярэдадні акцыі 21 ліпеня, якая павінна адбыцца а 17-ай гадзіне на Кастрычніцкай плошчы. Для нас гэта не навіна. Ва ўладаў ёсць розныя схемы па супрацьдзеянні апанентам рэжыма. Так у 1997 г. лідэраў БНФ спрабавалі абвінаваціць у тым, што яны перамяшчаюцца па Мінску ў крадзеных аўто. Былі і іншыя правакацыі. Таму апазіцыйныя лідэры гэтым разам павінны сябе пaберагчы.



Улады ведаюць вынікі сацыялагічных апытанняў, згодна з якімі рэйтынг Лукашэнкі значна знізіўся, і яны баяцца, што пасіўны супраціў прэзідэнту перарасце ў актыўны.

# Рабочыя атрымалі папярэджанне ад Лукашэнкі

## Прэзідэнт даў адказ на ліст рабочых металургічнага завода з просьбай вызваліць з-пад арышту гендырэктара Юрыя Феакціставa

Ірына МАКАВЕЦКАЯ

Працоўны калектыў Беларускага металургічнага завода атрымаў адказ прэзідэнта А.Лукашэнкі на адрасаваны яму ліст з просьбай вызваліць з-пад варты арыштаванага 21 чэрвеня генеральнага дырэктара завода Юрыя Феакціставa. Нагадаем, што зварот да прэзідэнта падпісалі 3,5 тысячы рабочых. У сваім адказе А.Лукашэнка прапанаваў працаўнікам прадпрыемства не турбавацца за лёс апальнага дырэктара. Таксама кіраўнік дзяржавы папярэдзіў калектыў прадпрыемства аб недапушчальнасці парушэння працоўнай дысцыпліны і правядзення якіх-небудзь «вызваленчых» мерапрыемстваў.

Тым не менш псіхалагічная абстаноўка на заводзе застаецца складанай, сказаў карэспандэнту старшыня прафкама Уладзімір Малашэнка. «Людзі чакаюць, што дырэктар вернецца», — удакладніў прафсаюзны лідэр. Паводле слоў Уладзіміра Малашэнкі, пры ўсёй напружанасці сітуацыі калектыў прадпрыемства не дазволіць сабе парушыць тыя прынцыпы працы, якім іх навучыў Ю.Феакціставa: пры любых абставінах заставацца спакойнымі і працавітымі. Разам з тым на прадпрыемстве ўжо ўзнікаюць цяжкасці. Як паведаміў старшыня прафкама, на тыя праблемы, якія Ю.Феакціставa вырашаў імгненна, цяпер маршруцьцца значна больш часу, а прамаруджванне, вядома ж, тоіць у сабе небяспечныя вынікі. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Прыехалі з дакладам

Беларускі Хельсінкскі камітэт разам з прадстаўнікамі ўплывовай міжнароднай арганізацыі *Human Rights Watch* праведзе заўтра ў Мінску прэзентацыю штогадовага даклада аб парушэнні правоў чалавека ў нашай краіне. З гэтай нагоды ў Беларусь прыехалі прэзідэнт *HRW* Джонатан Фэнтан і кіраўнік аддзялення гэтай арганізацыі па краінах СНД Малкальм Хокс.

***Казімір АСТРЭЙКА***

### Апазіцыя Мілошавічу расце

Учора сербская паліцыя пад пагрозай арышту забараніла актывістам апазіцыі збіраць подпісы за адстаўку Слабадана Мілошавіча. Тым часам да пратэстаў далучыўся адзін з самых вядомых югаслаўскіх дзеячаў Вук Драшкавіч. Ён вельмі часта змяняў сваю пазіцыю – то быў у апазіцыі да Мілошавіча, то займаў пасаду віцэ-прэм'ера ў яго ўрадзе. Цяпер Драшкавіч абяцае вывесці людзей на вуліцы.

***Міхась КАРПОВІЧ***

### «Рэкорды» еўра

Агульнаеўрапейская валюта ставіць новыя «рэкорды». Учора яе курс упаў да самай нізкай адзнакі – за 1 еўра давалі толькі 1 долар і 1 цэнт. Нагадаем, што еўра было ўведзенае ў 11 краінах Еўрасаюза з 1 студзеня гэтага года – тады курс складаў 1 долар і 17 цэнтаў.

***Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

наша свабода

## НАДВОР'Е




**15—16 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, месцамі град. Вецер паўднёвы з пераходам на заходні, 4—9 м/сек, пры навальніцах шквалісты, 15—20 м/сек. Тэмпература ноччу 13—18, днём 22—27. Па Гомельскай і Магілёўскай абласцях да 32 градусаў цяпла.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

## СЕРАДА

з АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Вечнае пытанне

Чаму ж не радавацца жыццю? Чаму ж не весяліцца, смяяцца, жартаваць, цешыцца, усміхацца? Сонцу, зорам, дрэвам, прасторы, дзецям? Чаму навокал так шмат пахмурных твараў, згаслых вачэй і сумных позіркаў з-пад ілба? Што гняце беларусаў увесь час, што займае іх думкі?

*Як пражыць на гэтым свеце, поўным крыўды і няпраўды?*

Сярод вечных філасофскіх пытанняў гэтае — самае знаёмае і блізкае нам з дзяцінства. Пытанне, на якім, магчыма, адной нагой стаіць беларускі менталітэт. Яно накіраванае да Бога і не абяцае чалавеку нічога добрага ў бліжэйшым будучым. Жыць немагчыма. Трэба выжываць. Беларус нібыта згаджаецца з уладай цемры на гэтым свеце, бо «так павялося». Значыць, няма чаго рыпацца наконт лепшай долі. Адсюль сумныя нашыя песні і вершы пра «саламяныя стрэхі», пра «гаротную долю», пра «пана сахі і касы». Згодна з такой філасофіяй, каб было добра, трэба, каб нейк самі сабой зніклі крыўды і няпраўды. Трэба, каб Бог пачуў. Трэба яму паскардзіцца. Ён усё зробіць як трэба. Вось тады, маўляў, і парадуемся, пацешымся, і паспяваем. Тады дамо копаці!

Цяжка пэўна прадказаць рэакцыю грамадзянаў якой-небудзь іншай краіны на заяву яе кіраўніка, што народу трэба такая зарплата, каб купіць калі-нікалі кавалачак мяса для дзетак. Гэта была б, мусіць, апошняя яго заява ўвогуле. Беларусы ж нават не заўважылі і зусім не здзівіліся жахліваму цынізму свайго прэзідэнта. Улада цемры, што з яе возьмеш? Вядома, на языку мазолі не садзяцца. Плявузгае абы-што. Але ж не мы яго пасадзілі і не нам скідаць. Тым больш, што не ўлада корміць сціплага беларуса, а беларус ненажэрную ўладу. Лукашэнка выглядае сытым, адкормленым, спраўным. Мардатыя і яго памагатыя. А нашыя дзеткі худзенькія, дробненькія, кволенькія. У школах, як пішуць газеты, падаюць беспрытомнымі.

Едзеш па краіне і бачыш: стары кульгавы дзед цягне саматугам воз сена на нейкай самаробнай калясцы, бабулька, сагнутая ў крук, пасвіць курэй і казу. Дачнікі з ранку да вечара, з ранняй вясны да позняй восені носяць і возяць на сабе, як жывёлы, прылады, насенне, угнаенні, ураджай. Калі радавацца таму жыццю? Як яму радавацца, калі жук паеў бульбу, а авёс сёлета спаліла?

Беларусы не жывуць. Яны выжываюць. Кожнае пакаленне выжывае па-свойму. Самыя прыгожыя ў свеце беларускія жанчыны ад клопатаў і цяжкай працы старэюць рана. Цягавітыя, працавітыя мужчыны, згубіўшы пачуццё ўласнай годнасці, ходзяць, уваабраўшы галаву ў плечы. Эстафета перадаецца ад бацькі да сына, ад маці да дачкі.

Беларусы не жывуць. Беларусы *гаруюць*. Гаруюць, бо так павялося. Гаруюць, бо несвабодныя. Гаруюць, бо што ты думаеш пра сябе, тое ты і маеш. Калі ж сам сябе не паважаеш, хто будзе цябе паважаць?

ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА

# Прэзідэнт стане «тэрарыстам»?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Адзін з лідэраў Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька ўдзельнічаў у паседжанні Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая днямі прайшла ў Санкт-Пецярбургу. Вядома, што дэпутаты ПА АБСЕ на гэтай сесіі шмат увагі ўдзялілі сітуацыі ў Беларусі. У тым ліку — пошукам выйсця з канстытуцыйнага тупіка, у якім апынецца Беларусь пасля 20 ліпеня. Анатоль Лябедзька адказаў на пытанні НАВІНАЎ.**

— На сесіі ў Санкт-Пецярбургу было добра бачна, што Беларусь апынулася ў цэнтры ўвагі АБСЕ. Крызіс у Югаславіі выраша NATO, наш крызіс спрабуе вырашыць АБСЕ. Беларусь — своеасаблівы экзамен для гэтай арганізацыі.

***— І як АБСЕ прапануе выйсці з «беларускага тупіка»?***

— Па-першае, АБСЕ ў Санкт-Пецярбургу пацвердзіла, што пасля 20 ліпеня беларускі прэзідэнт страчвае сваю легітымнасць і таму ў яго ёсць адзіны шанец — пайсці на перамовы з апазіцыяй, якія павінны скончыцца новымі выбарамі. Калі перагаворны працэс не пачнецца, Лукашэнка для краінаў АБСЕ становіцца не прэзідэнтам, а ўзурпатарам улады. Парламентары 37 краінаў Еўропы ўпэўненыя, што іх парламенты прымуць менавіта такое рашэнне.

***— Ці ёсць разыходжанні ў ацэнках сітуацыі ў Беларусі, якія даюць АБСЕ і вашая дэлегацыя Вярхоўнага Савета?***

— На маю думку, разыходжанні толькі ў метадах уздзеяння на сённяшні рэжым. АБСЕ займае пакуль больш лагодную пазіцыю, іх мэта — уцягнуць беларускага прэзідэнта ў дыялог з апазіцыяй. Але яны ўжо заяўляюць, што гэта не самамэта, што не збіраюцца даваць вадзіць сябе за нос. Перамовам павінны папярэднічаць канкрэтныя крокі з боку беларускіх уладаў.

***— Якія канкрэтна?***

— Вызваленне Міхаіла Чыгіра і палітвязняў і доступ апазіцыі да дзяржаўных тэлебачання і радыё.

***— Трэба разумець, далейшае па сцэнары АБСЕ залежыць ад беларускіх бакоў, але пакуль іх пазіцыі падаюцца непрымірымымі. Прэзідэнт настойвае на сваёй канстытуцыі, Вярхоўны Савет — на Канстытуцыі 1994 года. Але будучыя прэзідэнцкія ці парламенцкія выбары трэба праводзіць па пэўным законе. На якую канстытуцыю ён будзе абапірацца?***

— Гэта сапраўды ключавы момант. Мы ў Грамадзянскай партыі ўпэўненыя, што галоўным вынікам перамоваў апазіцыі з уладай павінны стаць узгодненыя правілы выбараў. Новы законапраект можа быць зацверджаны як Вярхоўным Саветам, так і Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, бо гэтыя дэпутаты ў свой час абіраліся народам і іх мандаты можна ўлічваць.

***— Калі, на вашую думку, можна будзе правесці новыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары?***

— Не думаю, што раней за 2000 год, бо трэба яшчэ дамовіцца, абмеркаваць, прыняць новы выбарчы закон, правесці перадвыбарчую кампанію і нарэшце самі выбары. Дзеля гэтага патрэбен час.

***— А што за гэты час будзе з прэзідэнцкай уладай?***

— Гэта тэма для перамоваў. АГП прапануе пасля 20 ліпеня выкінуць з абароту слова прэзідэнт, прэзідэнцкая ўлада і пакінуць толькі зварот «т.Лукашэнка». Для нас, прыхільнікаў гэта будзе азначаць «таварыш Лукашэнка», для нас — «тэрарыст», які ўзяў у заклад 10 мільёнаў грамадзянаў. У любым выпадку прэзідэнт сам зацікаўлены, каб яго ныдалейшы статус стаў тэмай перамоваў. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

> **Беларусь для современного Запада, для NATO — это почти что кость в горле, ведь именно она является форпостом антинатовского морального и геополитического противостояния, передним флангом возобновившейся «холодной войны».**
>
> *Андрей АКАРА*
> *«Народная газета», 13 июля 1999 года*

## Знікненне генерала не перашкодзіла стварэнню новай арганізацыі афіцэраў

Леанід СІМАНАЎ

У адным з санаторыяў пад Лепелем (Віцебская вобласць) у мінулую нядзелю адбылася дзелавая сустрэча членаў аргкамітэта па стварэнні новай арганізацыі афіцэраў Беларусі — грамадская аб'яднання, ля вытокаў якога стаяў быў міністр унутраных справаў генерал Юрый Захаранка. Падчас сустрэчы былі абмеркаваныя задачы будучай арганізацыі, формы яе ўзаемадзеяння з Лігай афіцэраў міліцыі (ЛАМ). У сустрэчы ўзяў удзел каардынатар ЛАМ Уладзімір Арыстаў і былы міністр абароны краіны Павел Казлоўскі. ■

## МаАЗ працягвае страйкаваць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Забастоўкі на Магілёўскім аўтамабільным заводзе, выкліканыя нявыплатаю заробку за травень, якія пасля абяцанняў дырэктара сплаціць запазычанасці ў бліжэйшы час былі спыніліся — зараз успыхнулі з новай сілай.

Прычынаю стала тое, што дырэктар, які асабіста абяцаў да ліпеня сплаціць даўгі, з'ехаў у адпачынак.

У выніку 200 рабочых першага блоку завода селі на зямлю на заводскай тэрыторыі і на просьбы галоўнага інжынера ісці працаваць адмовіліся: «Мы тут грошай пачакаем!»

Але кіраўніцтва МаАЗа прыняло меры, і ў выніку па заводскім радыё працоўным паабяцалі даць па 7 мільёнаў да 15 ліпеня. Рабочыя ў адказ паабяцалі, што калі і гэта будзе падман, то страйкаваць будзе ўжо ўвесь МаАЗ. ■

## За сцяг — 420 мільёнаў

Аляксей ШМЯЛЁЎ

8 ліпеня ў будынку Віцебскага міжгарнізоннага ваеннага суда скончыўся працэс над трыма маладымі беларускімі «Міронамі», якіх абвінавачвалі ў тым, што ўвесну гэтага года яны сарвалі з будынка Полацкага райвыканкама чырвона-зялёны дзяржаўны сцяг.

Хлопцы, адзін з якіх па кантракце служыць у войску (таму іх і судзіў ваенны суд), на працэсе заявілі, што зрывалі сцягі з-за таго, што выраслі і набылі сацыяльна-палітычную свядомасць пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Хлопцы прызнаныя вінаватымі і асуджаныя: Сяргей Лавейкін і Алег Койдаў, якія непасрэдна здымалі сцяг, атрымалі штраф у 200 мільёнаў рублёў кожны, а Анатолю Блізняцову, «які стаяў на шухеры», прысудзілі «ўсяго» 20 мільёнаў. ■

ЭКАНОМІКА

## Улады плануюць увесці з 1 студзеня 2000 года спецыяльны падатак на падтрымку прадпрымальніцтва

Сяргей БАЛЫКІН

Як паведаміў намеснік міністра прадпрымальніцтва Беларусі Анатоль Скорбеж, магчыма, што ўжо з 1 студзеня 2000 года будзе ўведзены спецыяльны падатак на падтрымку прадпрымальніцтва. Паводле словаў Анатоля Скорбежа, дамоўленасць аб увядзенні новага падатку была дасягнутая паміж прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і міністрам прадпрымальніцтва краіны Аляксандрам Сазонавым падчас іхняй сустрэчы.

Плануецца, што новы падатак будуць плаціць усе недзяржаўныя суб'екты гаспадарання, а сабраныя такім чынам сродкі будуць накіраваныя на развіццё прадпрымальніцтва.

Закрануўшы пытанне аб рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання, намеснік міністра заявіў, што ён не бачыць ніякіх аб'ектыўных прычынаў для неадназлення гэтай працэдуры, паколькі на сёння ўжо прынятыя ўсе неабходныя нарматыўныя акты. Наконт апраўданняў чыноўнікаў выканаўчых камітэтаў з-за затрымак аднаўлення рэгістрацыі Анатоль Скорбеж сказаў, што яны не вытрымліваюць крытыкі. ■



## Адрапартавалі

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Беларуская міліцыя заяўляе, што выканала збольшага задачу па вяртанні крэдытаў, якую ў траўні паставіў прэзідэнт. Паводле звестак прэс-цэнтра МУС, у міліцыі зараз вядуць 466 такіх справаў. Паступова павялічваецца колькасць арыштаваных. Прыкладам, з траўня ў дадатак да раней затрыманых даўжнікоў арыштавана яшчэ 73 чалавекі. І ўсё ж тых, хто ўзяў крэдыт і знік, яшчэ няма. Зараз вядуцца пошукі 148 абвінавачаных у невяртанні грошай.

Самае галоўнае, чым ганарацца міліцыянты, — нават не колькасць затрыманых, а грошы, якія ўдалося вярнуць у казну. Паводле прэс-цэнтра МУС, ужо ўдалося пакрыць страты памерам 832 мільярды рублёў, 17,1 мільёна долараў, тры мільёны нямецкіх марак. Арыштаваная маёмасць на 44 мільярды рублёў.

Варта, аднак, заўважыць, што факты, сабраныя міліцыянтамі, будуць праходзіць праверку судом. Што тады скажуць аматары перамоўных рапартаў? ■

КРЫМІНАЛ

## У Брэсце судзяць рэкеціраў

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

У Брэсцкім абласным судзе на мінулым тыдні пачаўся працэс над членамі злачыннай групоўкі, якая доўгі час займалася рэкетам і рабаўніцтвам на дарогах Польшчы. На лаве падсудных апынулася 9 жыхароў Брэста, якія гучна называлі сябе «брыгадай Мані», на чале з главарамі банды, братамі Алегам і Валерыем Абрамавымі. Чацвярых злачынцаў на пачатку гэтага года перадала следчым органам Беларусі польская паліцыя, а яшчэ пяць бандытаў былі затрыманыя ў Брэсце мясцовым аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Брэсцкія рэкеціры спынялі расійскіх вадзіцеляў, што пераганялі машыны з краінаў Заходняй Еўропы, і, пагражаючы фізічнай расправай, забіралі ў іх грошы і каштоўныя рэчы. Тых, хто адмаўляўся плаціць, бандыты вазілі ў лес, прывязвалі да дрэва і пакідалі на волю лёсу. Гэтыя факты далі права следству абвінаваціць злачынцаў яшчэ і ў замаху на забойства вадзіцеляў. Злачынцам пагражае ад 5 да 15 гадоў турмы. ■

# Последний звонок

## Он живет в плоском мире, положенном на двух слонов с ядерными головками, путает себя то с Сапегой, то с Гитлером, от страха перед своим народом носит бронежилет даже под вылинявшей майкой на бретельках и впадает в детство, забывая обо всем при виде клюшки с шайбой

***Не все только было плохое связано в Беларуси с известным Александром Лукашенко.***

*Такая философская мысль на меня, так сказать, обвалилась сегодня.*

Нет нужды напоминать, что это почти прямые цитаты из собрания выражений белорусского руководителя, позаимствованные из фильма «Обыкновенный президент». О том, что же не только было плохое, — чуть позже. Сначала о том, чего вообще было. Пять лет — срок немалый, а для молодого государства, оказавшегося в центре бурных исторических событий, — и вовсе огромный. После пятилетних обещаний и заверений, что мы стоим на пороге небывалого расцвета и подъема, мы вынуждены по-прежнему гадать, какие продукты исчезнут завтра, чтобы успеть запастись ими сегодня. Зарплата, которая никак не угонится за ценами, помогает разве что развитию математических способностей населения, но никак не поддержанию штанов.

Какая социальная или профессиональная группа населения улучшила свое положение за эти бездарно потерянные пять лет? Может быть, те советские пенсионеры, которые так истово поддерживают советского президента? Искренне им сочувствую, они действительно пострадали больше других, но зачем же восхвалять того, кто сделал их жизнь просто невыносимой? Да, он любит сажать их в президиум или использовать как одноразовые изделия для саморекламы по большим революционным праздникам. Но потом их вышвыривают к жалким лоханкам, громко называемым пенсиями. Можно, конечно, слепо любить хоть президента, хоть черта лысого, но зачем же так ненавидеть своих детей и внуков? Зачем искренне желать им того же прозябания, что и себе? У внуков и так перспектив небогато. Идеологическая система образования, уничтожение исторических и культурных ценностей не позволят им нормально развиться в своей стране.

Где, в какой отрасли народного хозяйства у нас хоть что-нибудь получается? Конечно, можно гордиться тем, что с помощью молотка и зубила мы производим телевизоры, и считать свою сгнившую картошку по-прежнему лучшей в мире, если другой не видел. Но, чуть-чуть погордившись, мы потом между собой на кухне все эти достижения так обложим...

Может, мы что-то приобрели в мире своей последовательной и предсказуемой политикой? Только репутацию умственно отсталых. Лукашенко здорово постарался, чтобы с нами вообще никто не считался. А мы все ему помогли, чтобы при слове «Беларусь» возникала одна ассоциация — Лукашенко. Это же надо, так невпопад себя вести по всем международным вопросам... Подобно тому сельскому дурачку из сказки, который на похоронах смеялся, а на свадьбе плакал.



**Андрей САННИКОВ, координатор Хартии'97 по международным связям**

Что бы сегодня ни говорил Лукашенко, пытаясь найти спасительную ложь для удержания своей власти, никто в цивилизованном мире ему не поверит. Молочный брат Милошевича уже прочно занял свое место среди мировых отбросов. Только международные авантюристы могут обтяпывать с ним свои делишки. Пока существует этот режим, будет существовать его международная изоляция, политическая и экономическая. Наивно рассчитывать, что Лукашенко во главе государства сможет привлечь хоть какие-то инвестиции в белорусскую экономику.

Поэтому нелепо выглядят абстрактные размышления о том, что вот если бы оппозиция не препятствовала, то кредиты и инвестиции посыпались бы как из рога изобилия. Оппозиция защищает те принципы, которые как раз позволяют государству нормально развиваться и достигать расцвета — принципы демократии. Залогом внешних инвестиций и кредитов служат именно демократические основы государственного устройства, а не посулы захватившей власть шайки обеспечить сверхприбыли иностранному капиталу. Белорусские власти хотят достичь «стабильности» за счет полного подавления гражданских прав и свобод белорусского народа. Именно о такой «стабильности» они и талдычат с завидным упорством, пытаясь оправдать свои репрессии. Примеры такой «стабильности» мы видим в Ираке, Северной Корее и на Кубе.

Неужели непонятно, куда пойдут сегодня любые деньги в виде инвестиций или кредитов для Беларуси? Предположим, мы все вместе попросили денег на чернобыльские программы. Их прямая дорога — в ненасытные карманы узкого круга ограниченных лиц. Здесь не надо сводить дебет с кредитом, а сальдо с бульдо. Достаточно посмотреть на дорогую безвкусицу высочайших апартаментов, посчитать количество охраны и прикинуть стоимость подарков Милошевичу, чтобы понять, куда идут деньги.




Я очень хотел бы поддерживать президента своего государства, который сделал бы хоть что-нибудь хорошее, пусть не сразу, пусть с трудом, но хоть что-нибудь. Но я ведь даже понять нынешнего не могу. Он изъясняется на несуществующем языке, говорит о несуществующем государстве — каком-то союзе. Он живет в плоском мире, положенном на двух слонов с ядерными головками, путает себя то с Сапегой, то с Гитлером, от страха перед своим народом носит бронежилет даже под вылинявшей майкой на бретельках и впадает в детство, забывая обо всем при виде клюшки с шайбой.

Конечно, если мы хотим продолжать вызывать в лучшем случае сочувствие, а чаще просто пренебрежение у всего мира, тогда надо замкнуться в себе и на все провокации американцев насчет прав человека и отсталой экономики отвечать что-нибудь про Монику, а европейцев тыкать носом в их диоксин. И продолжать угрюмо гордиться темпами строительства ледовых сараев и размахом маразма очередных «Дожинок» с кумачем через плечо вместо честно заработанных денег.

Честно говоря, не знаю, что с нами происходит. Ведь в любой нормальной компании, появись такой, как нынешний блин комом, его бы послали..., и он бы пошел. А тут терпим. Понятно, терпеливый народ. Неужели беспредельно терпеливый? Пять лет ведь прошло. Как ни измеряй срок полномочий президента, а пять лет — это пятьдесят по-старому. Не пора ли перестать злиться на самих себя за неудачный выбор и что-то сделать?

Многотысячной армии госслужащих хочу объяснить, что означает 20 июля: у Лукашенко 20 июля заканчивается срок мандата, который ему был выдан на президентских выборах 1994 года. Еще 20 июля окончательно завершится государственный переворот, начатый так называемым референдумом 1996 года. Уж кому, как не вам знать, как вы подделывали результаты голосования, а перед этим занимались угрозами, шантажом, уговорами, чтобы обеспечить необходимые цифры. Но даже здесь просчитались. Найдите где-нибудь в вашем варианте конституции хоть намек на то, что срок президентских полномочий продлевается еще на два с гаком года. Не нашли? Тогда слушайте, что это значит.

Это значит, что после 20 июля вы становитесь служками узурпатора. С Лукашенко все ясно. Его уже ничего не исправит. Неважно, продержится он еще несколько дней или пару месяцев. Речь не о нем. В конце концов, не он разгоняет демонстрации на улицах, выносит абсурдные приговоры, лишает детей собственного языка и истории, издевается над чернобыльцами, мздоимствует, обирая предпринимателей, врет в газетах и на телевидении, объясняет за рубежом преимущества палочной дисциплины, мешает всем жить нормальной жизнью, хотя бы без страха за собственные мысли. Все это делаете вы. И если до 20 июля вы могли найти всему этому хоть какое-то оправдание, то после — не знаю...

Сегодня власть теряет легитимность, и вам дается уникальный шанс — освободиться от каждодневного унижения. Уйдите в отставку, увольтесь. Хлопните дверью. Освободитесь от лакейства. Не важно, министр, посол, сотрудник заштатного отдела в министерстве или горизонтально лежащий «вертикальщик». Почувствуйте себя людьми, уйдя от скотства. Не бойтесь свободы. Не пугайтесь временных трудностей. Если вы неглупый человек — прокормитесь. Зато перед детьми, друзьями, близкими стыдно не будет. Неужели лучше ходить на работу как на каторгу, ненавидя эту власть и главного ее носителя? Вы ведь именно такие чувства испытываете. И чем ближе к «телу», тем ненависть сильнее. Те, кто участвует в показательных публичных разносах, когда-нибудь видели себя по телевизору? Вы ведь все сидите и судорожно что-то записываете, боясь поднять глаза. А поскольку записывать нечего, то вы просто прячетесь. Боитесь, что глаза вас выдадут и что хозяин, встретясь с вами взглядом, рубанет и вашу голову. Хорошо представляю себе ваши чувства.

Понимаю и чувства тех, кому приходится сегодня представлять эту власть за границей. Кроме парочки послов в СНГ, которым что послом, что ассенизатором (ни в коем случае не хочу обидеть эту благородную профессию) — все равно, лишь бы при кормушке, — все остальные всеми силами пытаются отмежеваться от нынешних белорусских властей. «Мы ведь умные и все понимаем, — говорят они своим коллегам в стране пребывания, чтобы понравиться и подольше в этой самой стране побыть. — Просто личные обстоятельства и валютная должность вынуждают нас сдерживать свои истинные чувства и притворяться». Это неплохая позиция на какое-то время. Но время-то уже вышло. Перестаньте притворяться. Если вы искренни, признайтесь в этом публично.

В общем, не упустите свой шанс, уважаемые госслужащие. Кому-то из вас надо уйти, пока не посадили — своих ведь после 20-го будут сажать куда как активней. Кто-то должен уйти, чтобы сохранить шанс на будущую карьеру, а кто-то — просто потому, что обрыдло. Вам ведь неприятно будет слышать, как вас называют мерзавцами и трусами — это еще самые мягкие эпитеты из богатого синонимического ряда.

**Поэтому не спрашивайте, для кого 20 июля прозвенит последний звонок. Он прозвенит для вас.**

***P.S.*** *Что же «не только было плохого» при Лукашенко? Тут надо идти от обратного (или от противного, если угодно). Пытаясь построить «колхозное государство», он настолько дискредитировал эту систему, что возврата к ней уже не будет. На фоне Лукашенко любой другой будет смотреться весьма неплохо, даже если он не заканчивал сельхозакадемий. В общем, урок нам преподали хороший. Пора делать выводы.* ■

**СУСЕДЗІ**

## Польскія медсёстры дабіліся свайго

У Польшчы скончыўся 52-дзённы страйк медыцынскіх сясцёр. Прафсаюз медперсаналу падпісаў з міністэрствамі працы і аховы здароўя пагадненне, у адпаведнасці з якім заробкі медыцынскаму персаналу будуць падвышацца штомесячна. Падвышэнне будзе на 2% апярэджваць за месячны ўзровень інфляцыі. Пагадненне пачне сваё дзеянне з «заднім часлом» 1 красавіка гэтага года – каб кампенсаваць страты ад інфляцыі. Грошы на падвышэнне заробкаў будуць выдаткаваныя з бюджэтаў шпіталяў. ■

## Кандыдатаў больш не трэба

На Украіне ў ноч з панядзелка на аўторак скончыўся тэрмін прыёму падпісных лістоў у падтрымку кандыдатаў у прэзідэнты.

18 чалавек пажадалі балатавацца на прэзідэнцкую пасаду. Але пакуль толькі тры з іх афіцыйна зарэгістраваныя кандыдатамі – гэта цяперашні прэзідэнт Леанід Кучма, Пётра Сіманенка і Яўген Марчук.

У стане праверкі знаходзяцца лісты Аляксандра Мароза, Міхаіла Паўлоўскага, Уладзіміра Олыйныка, Юрыя Кастэнкі, Генадзя Удавенкі і Аляксандра Ткачэнкі.

Прэзідэнцкія выбары на Украіне адбудуцца ўвосень. Для таго, каб кандыдат быў афіцыйна зарэгістраваны, яму трэба сабраць мільён подпісаў у сваю падтрымку. ■

## Апошняя шахта...

Украіна канчаткова развіталася са статусам ядзернай дзяржавы. У раёне сяла Пархомаўцы Хмяльніцкага раёна была знішчаная апошняя ракетная шахта. Усяго іх было 90.

На месцы былой шахты ў гонар завяршэння праграмы ядзернага раззбраення Украіны быў пастаўлены сціплы помнік з металу. ■

***Падрыхтаваў Міхась КАРПОВІЧ***

**ГРАМАДСТВА**

## Па развіцці чалавечага патэнцыялу лідзіруюць канадцы. Мы — на шасцідзесятым месцы

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

Сёлета Беларусь перамясцілася з 68-га на 60-е месца па індэксе развіцця чалавечага патэнцыялу (ІРЧП) у спісе з 174 краінаў. Такая інфармацыя прагучала 12 ліпеня ў Нью-Йорку падчас агучвання штогадовага даклада па развіцці чалавека за 1999 год, падрыхтаванага незалежнай групай экспертаў на заказ Праграмы развіцця ААН. ІРЧП вызначае ўзровень развіцця краіны ў галіне чакаемай працягласці жыцця пры нараджэнні, узроўню адукацыі і скарэктаванага рэальнага даходу. Лідзіруюць у спісе Канада, Нарвегія і ЗША.

У дакладзе аб развіцці чалавека адзначаецца, што, нягледзячы на беспрэцэдэнтныя тэмпы нарошчвання багацця на планеце, за апошнія 10 гадоў жыццё насельніцтва 85 краінаў свету пагоршылася. ■

**ВІЗІТ**

## Два паслы прыехалі ў Гродна

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У панядзелак адразу два замежныя паслы прыехалі ў Гродна — нямецкі Х.Вінкельман і польскі М.Машкевіч.

У нямецкага пасла гэта першая паездка на Гродзеншчыну, польскі працаваў тут тры гады генеральным консулам РП. Х.Вінкельман сустрэўся з мясцовымі ўладамі, а таксама наведаў калгас «Азёры», якім кіруе сын старшыні аблвыканкама А.Дубко. У гэтым калгасе, дарэчы, нядаўна пачалі гадаваць зуброў. М.Машкевіч тым часам меў у будынку генеральнага консульства сустрэчу з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацыяў, перад усім Саюза палякаў. У аўторак нямецкі пасол знаёміўся з музейнымі заламі ў Старым і Новым каралеўскіх замках. Ён таксама сустрэўся з прадстаўнікамі мясцовага нямецкага культурнага таварыства. ■

ЗАМЕЖЖА

# У Берліне прайшоў Парад Кахання



Амаль паўтара мільёна чалавек выйшлі на вуліцы Берліна, каб святкаваць Каханне

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Напрыканцы мінулага тыдня ў Берліне адбылася найбуйнейшая ў свеце тэхна-акцыя года – Парад Кахання. На вуліцы нямецкай сталіцы выйшла амаль паўтара мільёна прыхільнікаў электроннай танцавальнай музыкі. Хлопцы ў спадніцах і дзяўчаты ў футравых купальніках танчылі проста на вуліцах.**

Парад праводзіўся ўжо адзінаццаты раз. У 1988 годзе ўсё пачыналася літаральна з некалькіх юнакоў, якія скакалі на даху мікраўтобуса *Volkswagen* у Заходнім Берліне. Сёлета акцыя мела шырокі камерцыйны размах.

«Усё, што звычайна забаранялася, сёння дазволена», — так патлумачыў сэнс свята 21-гадовы Тобіяс Нэгер, які быў апрануты ў спадніцу і майку.

Па вуліцах Берліна раз'язджалі больш за 50 грузавых аўтамабіляў з ды-джэямі і калонкамі. З калонак біла па натоўпе нізкачастотнае *techno*, а моладзь танчыла пад музыку. Амаль у кожнага быў у роце свісток, і часам агульны свіст перакрываў пульс басоў.

На вуліцах луналі транспаранты кшталту «Бог – гэта ды-джэй». Шмат хто быў упрыгожаны кветкамі. Многія таксама былі ўзброеныя вадзянымі пісталетамі – каб не пакутаваць ад спякоты. Распаленыя танцоры ахвотна распраналіся. Парачкі не менш ахвотна цалаваліся перад тэлекамерамі.

Моладзь «адцягвалася» – хто супраць? Абаронцы навакольнага асяроддзя. Танцоры вытапталі газоны і пакінулі пасля сябе тоны смецця. Гучная музыка распалохала птушак, а самі ўдзельнікі акцыі, не саромеючыся, выкарыстоўвалі любыя месцы ў горадзе ў якасці прыбіральні.

Свята не заўсёды праходзіць «гладка». Вось і сёлета, згодна з паліцэйскай зводкай, адзін чалавек быў забіты падчас бойкі.

Тым не менш, Берлін някепска зарабіў на свяце музыкі і кахання. І ў наступным годзе Парад адбудзецца зноў. Бо шмат хто не ўяўляе для сябе іншага месца правядзення гэтага свята. «Берлін – гэта частка Парада Кахання, — кажа адзін з удзельнікаў. – Ён пачынаецца ў Берліне і там жа завяршаецца». ■



Удзельнікі парада апрануліся ў самыя экзатычныя строі



Моладзь «адрываецца» ля Брандэнбургскай брамы

МІНУЛАЕ

# Грунвальд: беларуская памяць

**Кастусь ТАРАСАЎ**

З аўтра ў Польшчы і Літве будуць адзначаць угодкі Грунвальдскай перамогі. У касцёлах адбудзецца традыцыйная імша, людзі памоляцца за вечную памяць сваіх продкаў, на гістарычнае поле прыедуць урадавыя дэлегацыі, прыйдзе моладзь, будуць разгорнутыя сцягі тых харугваў, што біліся тут з крыжакамі без малога 600 гадоў таму. Магчыма, што адзначаць чарговыя ўгодкі бітвы будуць і ў Аўстрыі, дзе цяпер мае свой асяродак адроджаны аматарамі даўніны Тэўтонскі ордэн. Сённяшнія браты ордэна, відаць, памоляцца за вечную памяць сваіх продкаў, у якіх на полі сечы адняла ўдачу.

У нас на Беларусі ўгодкі Грунвальда будуць адзначаца нешматлікімі суполкамі, якія шануюць родную мінуўшчыну. Аднак розніца паміж Беларуссю, з аднаго боку, Польшчай і Літвой – з другога, у тым, што там гэтае свята мае дзяржаўны статус, ва ўсялякім разе, мае павагу з боку дзяржавы. У нас – наадварот. Нашыя дзяржава, урад, прэзідэнт, падобна, ненавідзяць свята Грунвальда. Калі б было інакш, ні прэзідэнт, ні ўрадавыя чыноўнікі не насмеліліся б абражаць герб Пагоня словамі «канякa», «лошак» і да т. п. Гэта пры тым, што яны ведаюць ці павінны ведаць, што пад сцягамі з выявай гэтай «канякі» на бітве стаялі 30 палкоў, што амаль цалкам палеглі ў бітве з крыжакамі мсціслаўская, аршанская, смаленская харугвы, а яшчэ 27, ламаючы хрыбет Ордэну, страціліся напалову.

Толькі Адам і Ева былі створаныя Богам, а мы ўсе паходзім ад нашых дзядоў і прадзедаў. У тым ліку і ад тых, хто паклаў жыццё пры Грунвальдзе дзеля волі сваіх нашчадкаў. Таму нашыя дзяржава, урад і прэзідэнт выступаюць з выключным цынізмам, калі не шануюць герб Пагоня, сцягі з яго выявай. Не было б Грунвальда — не было б у нас ні ўрада, ні першага прэзідэнта. Дастаткова ўзгадаць лёс яцвягаў і прусаў, каб у гэтым не сумнявацца ні на ёту.

І яшчэ напярэдадні свята думаецца вось пра што. Чаму, вынішчаючы гістарычную памяць, не баіцца наша веруючае ў Бога чыноўніцтва патрапіць у пекла? Ці не сорамна будзе перад апосталам Пятром, калі ён у свой дзень запытае: «За што вы абражалі вашых дзядоў? Чаму Калініна і Дзяржынскага, якія вас забівалі, шануеце помнікамі, а сваіх родных аддаеце на забыццё?» І якім будзе адказ на гэтае справядлівае пытанне? Што гэта было даўно. Ну, а мы, простыя людзі, што адкажам? Што дзяржава выхоўвае нас няўдзячнымі паганцамі. Як яна кажа – так робім. Болей і сказаць не будзе чаго.

**Са святам Грунвальда ўсіх, хто яго шануе!** ■



ПОШТА

## Траншэекапальнікам па жывому

Артыкул Ал.Дубравіна «Праклятая прафесія» (НАВІНЫ за 7 ліпеня) закрануў мяне за жывое. Маё дзяцінства і юнацтва прайшло ў вёсцы Нябышына за Бягомлем, якая раскінулася на беразе маляўнічай рэчкі Поня. Рэчка мудрагеліста пятляла, то аддаляючыся, то набліжаючыся да вёскі. Больш прыгожай ракі я ніколі не бачыў. З вялікай асалодай усё лета мы праводзілі ў яе крыштальна чыстай вадзе. А колькі было рыбы, ракаў, вадаплаўнай птушкі! Усё навакола было пакрытае кветкамі. І вёска наша жыла весела, і моладзь не збягала ў гарады.

Але дзесьці ў 1950–53 гадах прыбылі да нас меліяратары. Правялі яны нейкія замеры, а потым панаехалі траншэекапальнікі, экскаватары, і ад нашай рэчкі Поні засталася прамая, як шнурок, канава. Усё жывое знікла, засталася мёртвая вада. Усе балоты ўздоўж ракі перааралі. Нашу Поню знішчылі, але ж і ўздыму сельскай гаспадаркі ад гэтай бязглуздай працы не атрымалася. Зачахла і наша вёска. Усё вакол гінула, але ж я не памятаю, каб хтосьці з дарослага насельніцтва абурыўся гэтымі злачыннымі дзеяннямі ўлады. Маўчалі і самыя адукаваныя людзі вёскі, настаўнікі нашай школы. На той час, мабыць, іх душы былі ўжо знішчаныя. Усё ўспрымалася як належнае. Гэта ўжо крочыў па нашай краіне як экалагічны, так і інтэлектуальны Чарнобыль.

Таму і зараз усё той жа ўладзе мы дазваляем знішчаць нашую гісторыю, нашую мову, нашую дзяржаўнасць.

*Ілья КОПЫЛ, Мінск*

## Последние выступления

***Уважаемая редакция!***

Удивительно, как наш президент умеет все вывернуть. Когда белорусский народ избрал А.Г.Лукашенко на 5-летний срок, он не уполномочивал его портить отношения с западными странами, а, наоборот, ждал, что будут налаживаться добрососедские взамовыгодные отношения со всеми странами, отчего наша жизнь только улучшалась бы.

Сейчас Лукашенко говорит, что дал поручение МИД наладить отношения. Да это же должно быть их святой обязанностью без всяких поручений! (За это их народ содержит.) Выходит, раньше он давал поручение портить их?

«Я из-за вас (имеется в виду Россия) переругался с Западом». Умный или мудрый хозяин не будет ради дружбы с одним соседом ссориться с остальными: слишком долго потом придется мириться.

По поводу обзывания оппозиции «фашиствующими национал-радикалами» — тут еще вопрос: кто поощряет фашизм? Молодчик из РНЕ свободно разгуливал, избивал граждан — куда смотрела власть? А избиение дубинками мирных демонстраций, это чьи методы? И еще обращение с задержанными в следственных изоляторах (с В.Гончаром, например) — чисто сталинское НКВД. Что-то не слышно было, чтобы кто-то из лидеров оппозиции призывал к насильственному захвату власти, а ведь их демократические выборы власть задавила (а М.Чигиря арестовала). Президент — это гарант Конституции для всех граждан, независимо от их политической ориентации. У нас же люди исчезают. Исчезают именно те, кто неудобен власти. Президент же делает вид, что ничего особенного не происходит. Значит, нет у нас такого гаранта.

*В.БОТВИН, г.Кобрин*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 571 Нумар падпісаны ў друк 13/07/99 (15:00) Наклад – 16.860